Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem.

Цана асобнага нумару 50 гр.

# Голас Праваслаўнага Беларуса

Орган незалежнай царкоўна-грамадзкай думкі.
Выходзіць раз у месяц.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Вострабрамская вул. 9—15.

Рэдакцыя прыйм. ў справах часопісі ад 10 — 2 што дня апрача сьвят.

Падпісная плата:
за 1 год . . 5 зл. —
„ 6 месяцаў 3 зл. —
„ 3 месяцы 1 зл. 50 гр.

ЦАНА АБВЕСТАК:
на вокладцы 30 гр., пасярод тэксту 25 гр., на апошн. старонцы 20 гр. за радок пэтыта.

№ 1 | Вільня, Лістапад 1931 г. | Год I.

## ЗЬМЕСТ:



ДРУКАРНЯ А. ДВОРЖЭЦА. ВІЛЬНЯ, ЗАВАЛЬНАЯ ВУЛІЦА 32

# ГОЛАС ПРАВАСЛАЎНАГА БЕЛАРУСА

ОРГАН НЕЗАЛЕЖНАЙ ЦАРКОЎНА-ГРАМАДЗКАЙ ДУМКІ

№ 1 Вільня, Лістапад 1931 г. Год I.



## АД РЭДАКЦЫІ.

Праваслаўная Царква наагул перажывае страшэнныя часы: галоўная цьвярдыня яе — Расея — стогне пад цяжарам бяспрыкладных рэпрэсіяў з боку савецкае ўлады, і ў атмосфэры гвалтаў і зьдзекаў толькі лепшыя сыны яе астаюцца вернымі запаветам бацькоў і сваей веры. Затое слабейшыя духам спакушаюцца дачаснымі карысьцямі і адракаюцца ад Царквы або на'т адкрыта становяцца самі ў рады перасьледавацеляў Царквы, стараючыся разбурыць яе *праз унутраны расклад, праз дэмаралізацыю* звычайных верных, і асабліва — духавенства.

Гэты дух гніцьця і маральнага заняпаду пачынае пранікаць і на Захад. І тут ёсьць людзі — нават спасярод духавенства, якія пад лёзунгам нібы то «санацыі« розных балячак і ад'емных праяваў у царкоўным жыцьці чыста *бальшавіцкімі мэтадамі* стараюцца зганьбіць Царкву ў вачох народу і гэтым шляхам падгатаваць грунт дзеля поўнага бязверыя. Яны адкрыта злучаюцца з заклятымі ворагамі Праваслаўя і за юдавы срыбнікі аплёвываюць усё, што ў вачох верных мела дагэтуль маральную цэннасьць.

Група праваслаўных беларусаў, якая распачынае выдаваньне гэтае часопісі, дужа добра ведае і бачыць, што шмат ёсьць у нашым царкоўным жыцьці недахопаў і балячак. А найбольшай балячкай ёсьць тое, што ад часоў панаваньня на Беларусі Расейскае імпэрыі Праваслаўная Царква сталася ў нас пляцоўкай русіфікацыі, прыходы абсаджываліся сьвяшчэньнікамі з Вялікарусі, да народу духоўныя пастыры яго прамаўлялі толькі парасейску. Ад гэтых часоў і сучасная Царква ў Заходняй Беларусі прыняла гэную

сумную спадчыну, і ў час агульнага крызісу, які перажывае нашая Царква, непрыхільнасьць хіба-ж пераважнай часткі праваслаўнага духавенства да беларусаў і іх нацыянальных імкненьняў толькі паглыбляе між Царквой і вернымі прорву, *пазбаўляючы Праваславіе адзінае запраўды пэўнае і непарушнае падставы, якой ёсьць царкоўна арганізаваны народ.*

З усімі гэтымі балячкамі мы будзем рашуча змагацца, стаўляючы на першым месцы працу над тым, *каб Праваславіе на Беларусі сталася беларускім, а праз гэта родным і блізкім нашаму народу.* Але змагацца мы будзем *унутранымі сіламі самае Царквы,* якая-ж і ёсьць фактычна «саборам» усіх верных — і духоўных, і сьвецкіх, — высьцерагаючыся ўблутываньня сюды сіл, варожых і Беларускаму народу і Праваслаўнай Царкве. Далёкія ад асабістых меркаваньняў і імкненьняў (сярод нас пакуль-што нават і няма духоўных асоб, якіх нехта мог-бы западозрыць у жаданьні рабіць кар'еру ці фортуну), — мы нашу *барацьбу за чыстую, сьветлую, запраўды Эвангельскую беларускую Праваслаўную Царкву* будзем вясьці ў такім кірунку і такімі мэтодамі, *каб радыкальна лячыць балячкі* царкоўнага жыцьця і нішчыць іх прычыны спакойна, з належнай павагай, выкрываючы гэтыя прычыны і паказываючы іх і духавенству і народу.

Беларускае праваслаўнае грамадзянства ўжо блізка 8 гадоў вядзе барацьбу за беларусізацыю Праваслаўнай Царквы ў Польшчы, за ачышчэньне Царквы ад тых непажаданых элемэнтаў, якія, прыстроіўшыся на цёплыя пасады, сваёю шкоднаю працаю падрываюць аўтарытэт праваслаўнае Іерархіі, аказваюць дэмаралізуючы ўплыў на падрастаючае маладое пакаленьне і гэтым самым шкодзяць праваславію наагул.

Але дагэтуль барацьба гэтая вялася невялічкаю жменькаю людзей, найбольш горача прыймаючых да сэрца тое цяжкое і ненармальнае палажэньне, у якім апынуліся праваслаўныя беларусы. Спаткаўшыся з абсолютным нежаданьнем задаволіць іх невялічкія дамаганьні з боку вышэйшае царкоўнае Ўлады, непадтрыманыя шырокімі коламі беларускага праваслаўнага грамадзянства, людзі гэтыя ступнёва пачалі адыходзіць ад пачатае імі працы. З гэтага, зразумела, скарысталі тыя элемэнты, якія

наагул «не прочь» пагрэцца каля ўсякае справы, і пачалі сваю «царкоўную працу». Утварыўся на'т спэцыяльна дзеля гэтай мэты так званы «Праваслаўны Беларускі Царкоўны Камітэт» на чале з вядомымі беларускаму грамадзянству арганізатарамі розных «хатак», «круцёлак», ігорных клюбаў і да таго падобных афэраў.

Маючы багаты, даўгалетні „арганізацыйны" досьлед, гэтыя «царкоўныя дзеячы» пастараліся ўцягнуць у свае сеці пару гарачых галоваў з беларускае моладзі і распачалі сваю падрыўную працу.

У хуткім часе паяўляюцца адна за аднэй аднаднёўкі: «Проч з ліхазельлем» і «У імя праўды», і часопісь «Сьветач Беларусі».

Такое агіднае „літэратуры" як па сваёй форме так і зьместу, здаецца, яшчэ не выдавалася ні ў аднэй мове ад пачатку друкаванага слова.

І калі пасьля суда над студэнтам Сарокай, „пакрыўджаны" Віленскай Кансісторыяй, сьвяшчэньнік Коўш, публічна на судовай залі расцалаваў фармальнага аўтара (?) гэтых агідных эляборатаў, праваслаўнаму беларускаму грамадзянству стала ясна, хто фактычны «удахнавіцель» гэтай „літэратуры", хто нясе маральную адказнасьць за ўсю гэтую акцыю...

Пры пэўнай „зыркасьці"—за гэтай новай афэрай можна разглядзець хітра (?) замаскаваную акцыю „унійных генералаў", якая, карыстаючыся living рознымі, мякка кажучы, маральна сумліўнымі адзінкамі — пераважна сярод духавенства — прыблукаўшымі да беларускага берагу, вядзе плянова і паступова працу над развалам Праваслаўнай Царквы ў Польшчы.

Ведаючы дасканальна сапраўдныя мэты ўсіх гэтых паноў, беларускае праваслаўнае грамадзянства ўрэшце прабудзілася і зразумела неабходнасьць аб'яднаньня ўсіх здаровых, чэсных элемэнтаў для супольнай барацьбы з шкоднікамі праваслаўнай веры.

Зразумела, што ў барацьбе гэтай мы перадусім і рашуча адкідаем усе неэтычныя спосабы змаганьня з нямілымі, нават яўна шкоднымі адзінкамі ці групамі людзей, бо гэтыя спосабы, як нязгодныя з духам Навукі Хрыстовае, толькі разьядаюць, як паказала практыка, беларускае грамадзянства і аслабляюць яго адпорную сілу, а карысьці

ніякае не даюць. Чыстая справа вымагае чыстых рук.. Хто служыць мамоне, той ня можа служыць Ідэі.

Мы спадзяёмся, што на такой плятформе мы здолеем аб'яднаць шырокія колы праваслаўных беларусаў, *верных Бацькаўшчыне і Царкве*. Наша група ў бліжэйшы час маеператварыцца ў *арганізаванае таварыства*, якое распачатую намі акцыю паставіць *на базе шырокае культурнае працы на карысьць Беларускага народу*. І мы ўпэўнены, што толькі на гэтым шляху, у самай цеснай сувязі з народам беларускім, Праваслаўная Царква на Беларусі *адродзіцца, ачысьціцца й падымецца маральна*, што яна *прадоўжыць тую вялікую культурную місію*, каторую выпаўняла ад самага пачатку хрысьціянскае эры ў гісторыі Беларусі.

# Мэты і мэтоды беларусізацыі.

I.

Шпаркім ходам ідучае нацыянальнае адраджэньне беларускага народу, зарадзіўшыся ў краіне романтычных прадчуваньняў і неясных імкненьняў невялікай горсткі інтэлігенцыі, узыйшло ўжо на непарушныя ўзвышшы нацыянальнай самасьведамасьці, адкуль імкнецца цяпер у шырокія прасторы ўсенароднай самадзейнасьці, ставіць сабе ясныя практычныя задачы — усебаковага ўздыму народнага жыцьця.

І тут — на першы плян высоўваецца першараднай важнасьці задача — аздараўленьня і адраджэньня рэлігійнага жыцьця народу — на шырокіх падставах адроджанай нацыянальнай самасьведамасьці і самадзейнасьці царкоўна-арганізаванай грамадзкасьці.

Рэлігія для народу зьяўляецца тэй найважнейшай крыніцай, з якой плывуць у яго душу — з прыродных і надпрыродных нетраў сусьвету вольныя творчыя — непераможныя сілы жыцьця.

Царква для народу зьяўляецца бліжэйшым чынам — у пляне зямным — тым духоўна-грамадзкім арганізмам, які ад вякоў бясспынна ўспрымае, захоўвае, разьвівае, узмацняе, ачышчае, узвышшае, зьвязывае ў рэлігійную суцэльнасьць усе гэтыя плывучыя ў душу чалавека сілы, ствараючы, як з паасобнай адзінкі таксама і з цэлага народу, няпераможную для стыхіі зла і сьмерці — духоўную істоту.

Запраўдная рэлігія — ня толькі ня ёсьць „опіум“, ці „дурман“ для народу, памагаючы экспляатаваць яго седзючым на яго карку „непрацоўным клясам“, як кажуць камуністы. Найлепшы доказ гэтай маны даюць самі-ж бальшавікі, якія, скасаваўшы ў сябе ўсялякую рэлігію, самі ў нячуваны дагэтуль на працягу сусьветнай гісторыі спосаб эксплятуюць і душаць народ.

Наадварот — запраўдная рэлігія дае велізарную, надпрыродную сілу чалавеку, выводзіць яго ў першыню з цёмнай і гнуснай жывёльнай залежнасьці ад прыроды — у вольны сьвет чалавечай сьведамасьці і безмежнага самабудаваньня.

Запраўдная рэлігія чыніць чалавека — раней мастацтва і навукі — панам над самім сабой і для самога сябе — дзеля любові да Бога і да сваіх братоў - людзей, найвярней вызваляючы яго з усялякай нявол на зямлі, апроч толькі „вольнай няволі" — загадам волі Божай і тых павадыроў роднага свайго народу, якія загадываюць яму ў імя Бога ды згодна з Яго воляй, — вядучы народ да зьдзейсьненьня яго сьветлых ідэалаў.

---

Эвангэлія параўноўвае Царкву да Нявесты, а Хрыста да Жаніха. Ад поўнага Божскай любові слова Хрыстова і плыве ў Царкву — у душу народную — тая надпрыродная сіла — Міласьць, якая робіць Царкву - Народ няпераможным. Таму ўсё, што збліжае Жаніха да Нявесты, Слова Хрыста да Царквы - Народу, ўсё гэта ўзмацняе народ, дае яму большыя сілы, крэпасьць яго духу — вечнасьць яго жыцьця. І таму — усё, што разлучае, аддаляе Хрыста ад Царквы, усё гэта шкодзіць ды губіць душу і сілы народныя.

Любімы вучань Хрыстоў Іоанн называе самога Хрыста Словам, ці Розумам Божым.

Дык ясна-ж — каб магло адбывацца гэтае блізкае, бясспыннае еднаньне Хрыста з Царквой - Народам, Слова з душой народнай, каб мог гэты Розум Божы прысваяцца народу, трэба, як першы варунак дзейснага рэлігійнага жыцьця і разьвіцьця народу, — трэба, каб *Слова Божае гаварылася народу ў зразумелай, адзіна блізкай да яго душы — роднай мове народу.*

Трэба прызнаць, аднак, мудрым і патрэбным адвечны звычай Царквы Хрысьціянскай — карыстацца, як кажуць, „мёртвай мовай", гэта значыць — мовай таго ці іншага зыйшоўшага ўжо з жыцьцёвай, гістарычнай чаргі народу, — як мовай літургічнай, а ўчастцы і багаслоўскай.

Справа — у тым, што так званая „мёртвая мова" не разьвіваецца, дый не зьмяняецца больш — дык у ей найлепш усяго захаваць навечна нязьменнымі, агульнымі ды супольнымі для ўсіх народаў — сяброў адзінае царквы — зьмест, чысьціню і аднолькавасьць багаслужэньня, гарантуючы тым самым поўную лучнасьць і еднасьць паміж усімі краямі і народамі — вызнаўцамі адзінай супольнай веры.

Такой, быццам „мёртвай", але ўзапраўднасьці ўскрэшанай да вышэйшага новага жыцьця жывою верай веруючых, сталася здаўна для ўсіх праваслаўных хрысьціян розных краёў і народаў — мова царкоўна-славянская.

Такой літургічнай мовай для каталіцкага Касьцёлу сталася мова лацінская.

Сэнс і значэньне гэтай адзінай і супольнай літургічнай мовы — бяспрэчны, і піонэры адраджэньня беларускай нацыянальнай царквы на гэтую мову рукі не падымаюць.

Але-ж — побач з гэтай літургічнай мовай Царква ўсіх вольных народаў сьвету вольна і натуральна карыстаецца жывой мовай народу, роля і значэньне якой высьветлена намі вышэй.

Толькі адзіны беларускі народ дагэтуль пазбаўлены вольнага і неабходнага, як мы бачылі — для яго рэлігійнага ўздыму і ўсебаковага адраджэньня — карыстаньня сваей роднай мовай у царкоўным жыцьці.

Ясна адсюль, што задача адраджэньня беларускага народу ня можа быць вырашана без адраджэньня ў поўні ролі і значэньня роднай яго мовы ў яго жыцьці.

---

Беларускі народ у Польшчы атрымаў у спадчыну па панаваўшай тутака расейскай улады цалком зрусіфікаваную царкву, ня кажучы ўжо аб яе так званым „сінодальным ладзе", выклікаўшым — па трафнаму слову расейскага мысьліцеля — „паралік" гэтай Царквы...

Ня будзем затрымлівацца на гісторыі і крытыцы гэтага зьявішча. Задача, якую ставіць наша царкоўна - адраджэнская акцыя, — вельмі цяжкая, зложаная і далікаткая.

Няма чаго крыць ад сябе, што значная частка нашага духавенства — ня толькі па мове, але і „па духу", як і па крыві — не пачувае сябе блізкай да беларускага народу, які яна аднак паклікана Богам і існуючым станам рэчаў — Словам Божым узвышшаць ды адраджаць духоўна.

Але простая „барацьба", ці „вайна на вынішчэньне" усяго гэтага ня беларускага духавенства была-б пэўна-ж найгоршым спосабам мэтнай барацьбы з такім запраўды-ж у корані ненармальным станам рэчаў.

З другога боку — рабіць нейкім фізычным ці «эканамічным» гвалтам, або маральнай прынукай — «беларусоў» з гэтых «расейцаў», гэта быў - бы таксама дрэнны спосаб рацыянальнага змаганьня з злом.

Усе гэтыя фальшывыя спосабы барацьбы з злом толькі павялічылі-б зло, творучы на яго мейсца хіба-ж яшчэ горшае.

Бо-ж ніколі ня трэба забываць, што — усім родам гэткага гвалту, усім відам такой прынукі найлягчэй паддадуцца якраз — ня лепшыя, духова, маральна сільнейшыя адзінкі, але — наадварот — найгоршыя, найбольш слабыя і маральна няпэўныя...

Дык — ці-ж варта рабіць такі адбор, ці дабор такіх горшых — для новых кадраў піонэраў ды будаўнічых нашай нацыянальнай царквы...

А таму — асабліва-ж у рэлігійным жыцьці і працы, у царкоўна-грамадзка - нацыянальным творстве ніякай ані фізычнай ані духоўнай прынукі, ні якага гвалту над душой і сумленьнем чалавека, а тым больш — пастыра душаў быць не павінна і ня можа.

Трэба, каб кожны аставаўся самім сабой, аддаючыся сьмела, адкрыта і шчыра голасу свайго сумленьня і нацыянальнага самапачуцьця. І за гэтая самапачуцьцё і яго выяўленьне ніякай наганы ці кары ані рэлігія ані царкоўна - грамадзкая думка і сумленьне накладаць ні-

кому не дазваляюць. Калі хто пачуваецца расейцам, хай будзе ім шчыра і сьмела. І такога царкоўнага дзеяча наш разумны народ будзе больш паважаць, як такога «тоже беларуса», які прыкідываецца ня тым, кім ён ёсьць — з рознага роду пабочных вырахаваньняў, крывячы душой і сумленьнем. Аднаго толькі можам і павінны мы вымагаць ад такога шануючага сябе і сваю нацыянальнасьць сьвяшчэньніка, гэта — каб ён з такой самай пашанай адносіўся і да нацыянальнага жыцьця, да духоўнай асобы таго народу, якога рэлігійным жыцьцём ён сілаю рэчаў пакуль што і змушаны і сам узяўся кіраваць.

Дык мы ня толькі ня «гонім» ад сябе гэтых чыстых і чэсных пастыраў - расейцаў, якіх наслала ў наш край «воля начальства» ці вялікая расейская разруха, але разумеем іх трагэдыю і з усяго сэрца можам пажадаць ім, каб чым хутчэй скончыліся гістарычныя цярпеньні Расеі, і яны атрымалі ізноў магчымасьць і шчасьце працаваць сярод роднага ім па крыві, па душы і па мове народу.

Трэба-ж таксама адзначыць, што вялікая частка прадстаўнікоў нашага духавенства, гэта-ж — *тутэйшыя, каранныя беларусы з крыві і косьці, толькі зрусіфікаваныя сілай даўгалетняга панаваньня расейскай культуры і школы ў Беларусі.* Расейская мова пануе сярод іх часта толькі ў сілу культурнай прывычкі, дый *падтрымлівалася дагэтуль варожым адносінам да беларускай справы з боку вышэйшай царкоўнай улады,* а таксама — няма чаго хаваць праўду — і слабым у нас разьвіцьцём беларускай культуры, неарганізаванасьцю самога беларускага грамадзянства і г. д.

Спыненьне ці аслабленьне ўсіх ад'емных чыньнікаў і ўплываў зусім проста і натуральна разьвяжа ўсё пытаньне для гэтай часткі нашага духавенства: прыклад згары, з цэнтру падзее тутака найбольш дабрачынна.

І тады далейшы ход падзей няўхільна вырашыцца сам сабой — свабодным рэлігійным дзеяньнем сумленьня на волю і паступаньне абодвух чыньнікаў царкоўнага жыцьця — пастыра і прыходу.

Толькі такім рэлігійна-царкоўна-эволюцыйным шляхом можа быць разьвязаны з бегам часу той цяжкі, тугі вузел, які завязаны быў папярэднім пэрыядам гісторыі нашага краю і пакінены нам у спадчыну.

Толькі такім шляхам і спосабам можа быць урэшце вырашана цажкая, зложная і далікатная царкоўна-грамадзкая праблема.

---

II.

Ніякай „ломкі", ніякага „перавароту" падыктаваных ненавісьцяй і нецярплівым жаданьнем „efektu natychmiastowego", * у царкоўным жыцьці і будаўніцтве быць не павінна. Бо-ж Царква—зусім не такая ўстанова, якая, сягоньня разбураная, як расейская, можа быць назаўтра адбудавана, як беларуская. Разагнаўшы адным махам усё наша духавенства, як „расейскае", мы адным гэтым ня створым яшчэ магчымасьці заступіць яго беларускім. Беларуская грамадзкасьць ня мае яшчэ такой сілы і падрыхтоўкі у галіне царкоўнага будаўніцтва, каб здолела даць даволі сваіх кандыдатаў на масова звольненыя становішчы пастыраў.

Таму трэба плянова і паступова заваёўваць пазыцыі, падрыхтоўваючы кадры новых, маладых, паважных, ідэйных, блізкіх да народу пастыраў, якія сілаю рэчаў, натуральным ходам заступалі-б сваіх адыходзючых ад жыцьця папярэднікаў, пераймаючы іх веду, іх фаховы досьлед, прысвойваючы з пакіданай імі спадчыны толькі тыя здаровыя царкоўныя традыцыі, якія неабходны для прадаўжэньня і разьвіцьця Праваслаўнай Царквы ў Польшчы, ачысьціўшы іх ад шкодных перажыткаў мінуўшчыны.

Будучына належыць да нашай ідэі і нашай акцыі, дык гэта павінна ствараць сярод нашых барацьбітаў настрої *вялікадушнасьці* адносна да тых, хто ходам гісторыі засуджаны на зьнікненьне, адзначаючы сярод іх належнай пашанай тых, якія, ня гледзючы на сваё небеларускае паходжаньне — сваей ахвярнай працай — здабылі сабе любоў і паважаньне з боку сваіх прыходжан.

Залішне-ж мала ў беларускага народу ў Польшчы дый у цэлым сьвеце прыяцяляў, каб яму карысна было павялічваць тут рады сваіх ворагаў, як гэта якраз і імкнуцца зрабіць усе тыя, што клічуць яго да нацыянальнай ненавісьці ды братняй вайны ў Царкве...

Гэткі заклік — найвярнейшая адзнака таго, што перад намі — не царкоўны дзеяч, але агідны шкоднік, нікчэмны скурнік, спэкулюючы на лёгкую пажыву ў гэтай „хатняй вайне", якой ён і хоча падмяніць адзіны верны шлях пляновага спакойнага змаганьня, і культурна-арганізацыйнай працы.

Дый самая *мова*, самы *„стыль"* усіх палямічных выслаўленьняў гэтых „барацьбітаў за Царкву" найлепш выдае іх проціцаркоўны характэр, іх антырэлігійную сутнасьць.

Іх „Сьветач" ня сьвеціць Сьвятлом Хрыстовым, але гарыць — паланее неапалімай, няўталімай ненавісьцяй да братняга ня толькі па крыві, але і па веры народу. Іх агульныя брудныя абвіненьні, кіданыя без разбору цэлым корпорацыям, найлепш выяўляюць іх „лёгіку д'ябала" (клеветніка), якая заўсёды „даказвае залішне многа", а тым самым апраўяргае сама сябе...

Іх нячуваныя, не спыняючыяся перад самым высокім у Царкве санам, лаянкі ярка кажуць аб тым брудным асяродзьдзі, адкуль яны паходзяць, дзе чарпаюць сваю „мораль" і сваю „адукацыю"...

Характэрна канчаецца адна з іх „аднаднёвак": „мы хочам быць людзьмі"! крычыць у ей „беларуская моладзь".

З усяго, што зьмешчана ў гэтай „аднаднёўцы", гэты шчыры „крык маладой душы" адзіны даходзіць да сэрца чытача, хвалюючы яго да глыбіні...

Дык — *будзьце-ж, станьце запраўды сьпярша людзьмі, вы, што завеце сябе „беларускай моладзьдзю"!...* Але-ж ведайце, што той шлях ненавісьці дый тыя павадыры вашы, што хаваюцца за вашымі плячыма, што пэўне-ж нясьведама выбраны вамі, — ня толькі не давядуць да сьвятой мэты царкоўнага адраджэньня, але ня прывядуць і кожнага з вас да тэй, пэўне-ж драбнейшай, але няменш важнай для вас асабіста, як і для ўсяго спарадзіўшага вас беларускага грамадзянства, мэты: *быць людзьмі...*

Справу гэтай „беларускай моладзі“ трэба разглядзіць крыху бліжэй. Ведама, што ў так званым „Белар. Царк. Камітэце“, як і ў яго органе „Сьветач Беларусі“ прыймае дзейнае і гарачае ўчасьце пэўная „група беларускай моладзі“.

Учасьце гэтай моладзі ў справе, якая сама па сябе зьяўляецца чыстай, сьвятой і насьпеўшай, — зусім зразумелая.

Мы нават ня маем духу вінаваціць гэтую моладзь за тое, што яна пайшла рабіць гэтую справу да тых, хто яе распачаў. Мы павінны — наадварот — вінаваціць само беларускае грамадзянства, а ў першую чаргу — *самых сябе* — за тое, што мы сваей бязьдзейнасьцю дагэтуль далі „падскочыць“ да гэтай справы, захапіць яе нячыстымі рукамі — тым людзям, якія ня маюць ніякіх, як кажуць цяпер, «кваліфікацыяў» на тое, каб яе тварыць, але маюць усе адзнакі і дададзеныя, каб праваліць яе ды занячысьціць.

Але захоплены спрытна гэнымі людзьмі „сьветач“ вялікай, сьвятой ідэі асьвятляе іх твары звычайных спэкулянтаў такім яркім сьвятлом, што малакрытычная, лёгкаверная, але шляхотная нават у сваіх памылках моладзь бачыць толькі гэтае сьвятло, але ня бачыць твараў...

Дык першым чынам мы павінны вырваць гэты сьцяг, гэты сьветач з іх нячыстых рук, а саміх „торжнікаў“ — прыкладам Самога Хрыста — адагнаць ад чыстай, сьвятой справы. А чыстую, ідэйную, баламучаную імі, моладзь беларускую мы горача запрашаем да нас— на ахвярную сьвятую працу.

---

Каб нас дрэнна ня зразумелі, трэба дагаварыць рэч да канца.

Заклікаючы беларускае грамадзянства, а у першую чаргу яго моладзь да спакойнага, разумнага, — рэлігійнага — падыходу да вялікай і цяжкай задачы, выключаючы з акцыі змаганьня ўсялякую, зацямняючую вочы розуму, нацыянальную ненавісьць, мы зусім не зьяўляемся самі і не радзім другім быць нейкімі „непротивленцами“, чакаючымі, каб пануючае цяпер зло неяк „згінуло само сабой“... Дык мы зусім ня маем намеру ашчаджаць тых сярод нашага духавенства, якія, носячы сьвяшчэнны сан, адважваюцца на тыя ці іншыя надужыцьці ці праступленьні. Мы рашуча заяўляем, што ўсім тым „айцам“, якія глядзяць на сваіх „дзяцей духоўных“ толькі як на об'ект жыру ды вызыску, усім тым „пастырам“, якія не пасуць, а толькі стрыгуць «авечак Божых», — няма месца ў адроджанай царкве беларускай, як няма ў ей месца і тым, што выяўляюць упорна злую волю, ненавісьць ды пагарду да душы, да нацыянальнага вобліку таго народу, які яны пакліканы — шляхом любові — Словам Хрыста ў роднай мове народу — весьці да Бога...

Такія адзінкі — хай лепш самі, згары пачуўшы пагражаючую ім небясьпеку, — канец іх жыраваньня ды панаваньня, — уходзяць сабе «на покой»... Бо спакою ім на іх «пасадах» ад нас ня будзе...

# Да праблемы адраджэньня нацыянальнае Царквы у Беларусі.

Нашыя царкоўныя адносіны ня можна разглядаць адарванымі ад агульна-грамадзкага жыцьця. *Беларусізацыя цяркві ёсьць неабходны, жыцьцёвы, лёгічны рэзультат усяго працэсу нацыянальнага ўсьведамленьня ці самавызначэньня беларускага народу* — працэсу, які йшоў праз усю 1000-гадовую гісторыю Беларусі, які, не гледзячы на вельмі цяжкія — мінулыя і сучасныя — палітычныя ўмовы, ня толькі не занік, не спыніўся, а наадварот — больш і больш пашыраецца і паглыбляецца ў беларускім народзе і які — сілаю няўхільных гістарычных законаў — прывядзе, — верым, у недалёкай будучыні, — да поўнай перамогі.

Разумеецца, ніякія перасьледваньні, ніякое душэньне, якія-бы яны ні прыбралі формы, ня могуць спыніць гэтага натуральнага працэсу, як не спынілі дасюль беларускага народнага руху наагул, бо ён мае сваі карэньні ў жывым народным организме. Цяжкія, жорсткія абставіны жыцьця заўсёды даюць толькі новы і новы імпульс, каб змагацца,—змагацца да канца! — за сьвятое права народу гаварыць, вучыцца і маліцца ў *сваёй* роднай, матчынай мове, — будаваць сваё жыцьцё *самым, сваімі* сіламі, *сваім* творчым гэніем, паводле *сваіх,* асьвячоных вякамі вераваньняў, імкненьняў і ідэалаў. Розныя вонкавыя перашкоды могуць толькі *часова* затрымаць разьвіцьцё рэлігійна-нацыянальнага руху, але зусім забіць, вытравіць, вынішчыць яго — немагчыма!

## Беларуская праваслаўная Царква ў мінуўшчыне.

Тыя палітычныя ўмовы, якія ад сусьветнае вайны ўтварыліся для Беларусі наагул, для праваслаўнае Беларусі пад Польшчай у частцы— дазваляюць ставіць пытаньне толькі аб большай ці меншай *беларусізацыі* царквы, г. ё. наданьні нацыянальнага характару толькі некаторым праявам царкоўнага жыцьця. У сівой-жа і слаўнай мінуўшчыне нашай гэтае пытаньне было вырашана зусім інакш: *беларускі народ, як народ дзяржаўны, меў нацыянальную царкву,* у поўным значаньні гэтага слова. І гэтаю царквою была *царква праваслаўная,* якую народ атрымаў, як найдаражэйшую спадчыну, ад сваіх дзядоў і прадзедаў. Тады, гэта ёсьць пачынаючы ад выхаду на арэну гісторыі (X век), увесь народ беларускі быў аднае праваслаўнае веры. Ня было падзелу, як сягоньня, на каталікоў і праваслаўных. Гэты падзел адбыўся пазьней, калі польская стыхія шырокай хваляй пачала заліваць Беларусь (з 1569 г.). XV—XVI стагодзьдзі — на тагачасны маштаб — былі эпохамі росквіту праваслаўнае царквы, бо былі эпохамі наагул

росквіту нацыянальнае беларускае культуры (XVI ст. — т. зв. «залатая пара»).

Беларуская праваслаўная царква мела тады правільную ўнутранную і вонкавую арганізацыю, якая будавалася на прынцыпе шырокага ўдзелу ў царкоўным жыцьці ўсяго народу, усяго «цела» царкоўнага, як духавенства, так і верных (саборнасьць, дэмакратызм, выбарнасьць). Існаваў асобны царкоўны адміністрацыйна - гіерархічны цэнтр (Вільня і Наваградак); царква была аўтакефальная, на чале (нейкі час) з мітрапалітам літоўска-беларускім; абслугоўвалася мясцовым белым і чорным духавенствам, прыпісаным да вясковых прыходаў і шматлічных манастыроў; былі свае духоўныя школы; існавала арыгінальная і пераводная духоўная літэратура ў народнай мове (кірыліцаю) — беларускія выданьні Фр. Скарыны, прыстасаваныя да ўжытку ў праваслаўнай, не каталіцкай царкве; у архітэктуры царкоўнай выпрацаваўся нават асобны беларускі стыль; напасьледак, жыцьцё стварыла такія ўзапраўды дэмакратычныя царкоўна-грамадзкія арганізацыі, як прав. *брацтвы*, якія на працягу вякоў адыгралі нязвычайна вялікую ролю ў пашырэньні царкоўнае асьветы і змаганьні за праваслаўную веру (першае гістарычна ведамае Полацкае брацтва з 1159 г.).

Палітычны заняпад Літоўска - Беларускае дзяржавы (ад 1569 г.) пацягнуў за сабой і заняпад нацыян. белар. царквы, якою — паўтараем — *спакон веку была царква праваслаўная.*

## Ці абвешчаная ў 1596 г. у Берасьці вунія была нацыянальнаю беларускаю царквою?

Так званая гістарычная вунія 1596 г. імкнулася падмяніць праваслаўную царкву і сама стаць нацыянальнаю беларускаю царквою. Але гэтая спроба, выклікаўшы не згоду і „jedność“ у народзе, а толькі ненавісьць і братагубства, была засуджана на поўную няўдачу. У беларускім народзе вунія выбрала нязьлічаныя ахвяры, а польскі народ заплаціў за яе цаною сваей дзяржаўнай незалежнасьці. *Вунія ніколі не была і не магла быць нацыянальнаю беларускаю царквою.* Яна выйшла не з душы і сэрца беларускага народу, а ад стыхіі, яму чужой і варожай.

Вунія нясла згубу, сьмерць для белар. народнае думкі, пачуцьця, мовы, культуры, усяго ўкладу жыцьця. Вунія пасьля культурнага заняпаду Беларусі ня толькі не прычынілася да новага яе адраджэньня, а наадварот — стала на перашкодзе яму. Заняпад беларускае культуры супадае з часам як раз наймацнейшага панаваньня вуніі. Вунія і створана была і падтрымлівалася сіламі, варожымі нацыянальнаму адраджэньню беларусаў. Паўтара мільёны беларусаў, парабіўшыхся праз вунію палякамі, гэты бяссумліўны факт красамоўней за ўсе аргумэнты гаворыць, чым была вунія для беларускага народу. Ведама, наканец, што на працягу ўсяго гістарычнага існаваньня вуніі, праваслаўная царква была жывая і жыцьцяздольная, хаця вельмі і вельмі

ўшчэмленая, — яна ўвесь час змагалася з вуніяй — цяжкім змаганьнем, парой крывавым (казацкія паўстаньні на Беларусі 1648—1650 г.г.). Усё гэта сьведчыць, што беларускі народ не прызнаў вунію сваёй нацыянальнай царквой. Таму — як толькі зьмяніліся палітычныя ўмовы, наварочаны прымусам у вунію народ масава, стыхійна, бо цэлымі мільёнамі — павярнуў ізноў да сваёй прадзедавай веры (1794—1795 г.г., 1839 і 1875 г.).

Наймацней адчуў тую *няпраўду*, тую небясьпеку для народнага існаваньня, якая таілася ў вуніі, гэта просты, сярмяжны мужык беларускі, хаця і бракавала яму „заходня-эўрапэйскай цывілізацыі", у імя якой тварылася ўся гэтая крыўда і дзеля якой так пагарджала яго пагалоўна здрадзіўшая сваю веру, свой народ беларуская шляхта, паны, магнацтва. Калі, не гледзячы на ўвесь уціск і гвалт, які так да твару быў жорсткаму і цёмнаму сярэднявеччу, праваслаўе не загінула і праваслаўны народ беларускі праз два ліхіх і крывавых стагодзьдзі пранёс непарушнымі і захаваў да сягоньняшняга дня сваю веру, сваю душу, сваю гарачую любоў да Бацькаўшчыны, дык гэта перадусім дзякуючы беларускаму селяніну.

Гэта ўсё было ў мінуўшчыне.

А чым цешыць нас сучаснасьць?

## Сучасная вунія, як спроба выращыць нацыянальнае пытаньне ў галіне жыцьця рэлігійнага.

Тое, што цяпер робіцца ў Зах. Беларусі (пад Польшчай) для пашырэньня вуніі (пінскія вуніяцкія зьезды 1930 і 1931 г. вынясьлі пастанову называць вунію „праваслаўем"), вельмі напамінае гістарычную вунію XVII — XVIII ст. Уваскрашэньне вуніі стала магчымым тольк-дзякуючы таму, што вярнулася сіла і ўплыў узброенага нанова ў нас „ваяўнічага каталіцызму", які ў саюзе з польскім нацыяналізмам вядзе сваю гістарычную барацьбу, за далейшае пашырэньне на Славянскі-Ўсход царкоўных і палітычных уплываў Польшчы.

Новы „крыжовы паход" для заваяваньня праваслаўнай Беларусі ўцягвае ў свае рады і нашых братоў — беларусаў каталікоў, як аб гэтым можна судзіць з шматлікіх артыкулаў, зацемак, абвестак і інш. у „Белар. Крыніцы", „Шляху Моладзі", раней ва ультра-полёнофільскай „Бел. Культуры" і інш. (да гэтага згоднага хору аднядаўна далучыўся і „Сьветач Беларусі" — орган так званага „Цэнтральнага Беларускага «Праваслаўнага» Камітэту". Ім ходзіць найбольш аб скасаваньні „прорвы"... аб злучэньні на грунце нацыянальным народу. Вунія, гавораць гэтыя беларусы-каталікі, прычыніцца да ўсебаковага адраджэньня бел. народу... вунія ўвальне новыя сілы... вунія вывядзе на шырокую дарогу „эўрапэйскай цывілізацыі"... вунія падыме духоўную культуру і матарыяльны дабрабыт... адным словам, пачне новую шчасьлівую эру для беларусаў. Таму ўсе кідайце „схызму" і ідзеце ў вунію!

Але дазвольце зьвярнуць ўвагу: ці ў вумовах агульнага нацыянальнага заняпаду магчыма такое поўнае адраджэньне? Ці мала гаворыць нашаму розуму і сэрцу горкае дасьведчаньне XVII— XVIII ст.? Ці чужыя і варожыя чыньнікі стануць падтрымліваць вунію для адраджэньня беларускага народу — сабе, у кожным выпадку, не на карысьць? Ёсьць-жа ў нас даволі каталіцкіх ксяндзоў-беларусаў: ці шмат яны зрабілі для адраджэньня? Хто ня хоча згоды, злучэньня? Хаця-ж праўду сказаць, у штодзенным жыцьці на вёсцы беларускай не адчуваецца ніякае „прорвы“, ніякага падзелу між праваслаўнымі і каталікамі, — і тыя і другія жывуць у згодзе, ў добрым супрацоўніцтве, аднолькава часам заходзяць і ў царкву і ў касьцёл... Ці ня штучна часам сеецца гэтая варожасьць?

Наш праваслаўны народ — і сьведама і інстынктам — добра адчувае ўсю *няпраўду*, усю небясьпеку, якую нясе вунія, і таму ўсімі сіламі бароніцца ад яе. І мы пэўныя, — будзе да канца бараніцца, як бараніўся ў мінуўшчыне. Тая аднадушнасьць і цьвёрдасьць, якія выявіліся нядаўна ў змаганьні за стары календар у царкве, (таксама было калісь і перад гістарычнай вуніяй у 1576 годзе) хай будзе парукай, што народ у масах сваіх не здрадзіць, не прадасьць „за сачавічную пахлёбку“ сваей веры, якая складае яго найдаражэйшы скарб.

## Роля праваслаўнага духавенства ў мінуўшчыне і сучаснасьці.

У мінуўшчыне духавенства праваслаўнае, як і перайшоўшае на вунію, было „плоть от плоти, кость от кости“ народу, было спаяна з ім адзінствам веры, мовы, быту, звычаяў, усіх вераваньняў і імкненьняў народных. Усё лучыла іх у адну сям'ю, дзе духаўнік быў і духоўны кіраўнік і добры дарадчык, і спагадлівы сусед-гаспадар. Духавенства вясковае сваім культурным разьвіцьцём мала чым паднімалася над агульным узроўнем таго часу і было блізкае народу, жыло з ім аднымі радасьцямі і аднэю пакутай. Сярод разгулу паншчыны і бяспраўя праваслаўнае духавенства дзяліла з народам усю нядолю жыцьця. Гэта тварыла між імі запраўдную сувязь, і гэта-ж давала духавенству сілы мацней процiўстаўляцца розным перасьледаваньням і спакусам, якія йшлі з боку тагачасных „паноў палажэньня“. Гэтая жывая сувязь з народам не дала загінуць праваслаўнай царкве, і нават у самой вуніі захавала адданнасьць праваслаўнаму абраду. Вунія пастольку не страціла свайго праваслаўнага аблічча, пакольку ў ёй захоўвалася духавенства, выйшаўшае з гушчаў народных. Гэтак, просты вясковы сьвяшчэньнік, побач з сваім народам, быў у першую чаргу тою сілаю, якая ў самую цяжкую гадзіну гісторыі беларускага народу захавала праваслаўную веру, а з ёю і нацыянальнае аблічча.

Сучаснае нам прав. духавенства не стаіць так блізка да народу, хаця і не пазбаўлена ўплыву на духоўнае ўзгадаваньне сваіх прыхаджан. Як і раней, сьвяшчэньнік застаецца першым прадстаўніком і абаронцам праваслаўнай царквы, і чым большая ёсьць небясьпека для

духоўнага жыцьця (бязверра, вунія, сэктанства), чым мацней стаіць ён на сваім пасту, тым вышэй яго аўтарытэт, тым шырэй яго ўплывы. Але гэта не ўсё, чаго вымагае ад яго сучаснасьць.

За апошнія дзесяцігодзьдзі, асабліва ў выніку шырокага масава-народнага зруху на ўсім Усходзе Эўропы, наша беларуская вёска прачнулася ад доўгага сну, духоўна перарадзілася, вырасла. Ідзе, як мы гаварылі на пачатку, працэс нацыянальнага ўсьведамленьня ці адраджэньня беларускага народу; ён хціва чэрпае з крыніцы свайго народнага гэнія, скарбу сваёй векавой культуры; творыць новыя яе вартасьці; ён кладзе вялікія высілкі, гатовы на ўсялякія ахвяры ў змаганьні за родную асьвету, кніжку, школу, за права на культурнае, царкоўнае і нацыянальнае самавызначэньне. І вось сталася, нажаль, што духавенства нашае прайшло неяк міма гэтага працэсу, не заўважыўшы яго, — не далучылася да шырокай культурнай грамадзкай працы, якая захапіла амаль не ўсю вёску, асабліва моладзь.

Мы не будзем разьбірацца ў тым, што іменна адыграла тут ролю — хутчэй усяго простая незнаёмасьць з тымі дасягненьнямі, якія здабыў дружным высілкам бел. народ асабліва ў апошнія 25 гадоў.— Але факт застаецца фактам. Духавенства быццам «кітайскаю сьцяною» адгарадзілася ад новага руху на вёсцы, і пільна глядзела, каб гэтыя веяньні не прасачыліся ў царкоўныя адносіны. Адтуль-то і пайшлі гутаркі і весткі — аб адчужэньні, аб недаверры да духавенства і г.д.— з аднаго боку, аб адыходжаньні народу ад царквы, аб рэлігійным індыфэрэнтызме, бязверры і сэктанстве — з другога.

І вось калі гутарыць аб вылячэньні гэтае хваробы, паколькі ўзапраўды хварэе ёю нашая вёска, і асабліва пакольку ей пагражае вунія, дык і трэба ва ўвесь рост паставіць пытаньне аб *беларусізацыі* царквы. Жыцьцё ўжо і паставіла на чаргу дня гэтае пытаньне.

## Беларусізацыя царквы.

Было-бы вялікай памылкай разумець гэтае пытаньне, як чыста вонкавае прыстасаваньне духавенства да пэўных зьменаў ці ўступак у царкоўным жыцьці, у сэнсе беларускасьці. Мы разумеем сталае, разумнае, шчырае, многагараннае зьбліжэньне з народам — і ня толькі на грунце царкоўным, — зьбліжэньне, поўнае з боку духавенства даверра і пашаны да культурна-нацыянальных імкненьняў народу, — каб узапраўды стварылася «адно цела, адна душа», як гэта і было ў мінуўшчыне. Народ павінен прыняць самае шырокае ўчасьце ў жыцьці царкоўным. Духавенства ў сваей пастырскай дзеяльнасьці апіраецца на пэўныя царкоўна-асьветныя, дабрадзейныя і інш. арганізацыі, на ўзор гістарычных брацтваў. Гэныя арганізацыі павінны ахапляць увесь прыход. Асаблівая ўвага ў прыходзе зварочваецца на хрысьціянскае ўзгадаваньне моладзі, як у школе, так і па-за школай. На вёсцы ёсьць непачаты кут царкоўна-асьветнае работы, якая адпавядала-бы вымаганьням беларусізацыі: казаньні, рэлігійныя бяседы, выкладаньне дзецям Закону Божага ў беларускай мове, па бела-

рускім кніжкам, навучаньне малітваў з перакладам на беларускую мову, царкоўныя бібліятэкі, выданьне і пашырэньне духоўнае літэратуры, царкоўнага сьпеву, ладжаньне духоўных чытаньняў, курсаў і т. д. і т. д.

Каб нашае духавенства магло вясьці такую працу на мясцох, павінна быць цяпер-жа зьвернена ўвага на належнае ўзгадаваньне будучых пастыраў у духоўнай сэмінарыі і на багаслоўскім факультэце, скуль павінны выхадзіць людзі ня толькі без пагарды да ўсяго беларускага (яны і з паходжаньня павінны быць беларусы), але наадварот — з добрым спачуваньнем беларускаму народу, гатовых з усёю адданасьцю і шчырасьцю паслужыць роднаму народу. Але і сучасны кадр духавенства мог-бы і цяпер ужо «пераглядзець» усю сваю працу ў прыходзе, каб праз тое стаць самаму бліжэй да народу і яго прыцягнуць больш да царквы.

Час не чакае. Небясьпека для прав. царквы з кожным днём павялічваецца. *Трэба рашуча і безадкладна стаць на шлях адраджэньня царкоўнага жыцьця, у суадказнасьці з агульным адраджэньнем беларускага народу.* Уся сіла праваслаўнае царквы—у цесным аб'яднаньні духавенства і народу, у іх жывым узаемным падтрыманьні і супрацоўніцтве. Тады не страшны будуць ні вунія, ні сэктанства, ні бязверра, ні іншыя «жупелы».

Ідучы такім шляхам, мы падрыхтуем грунт для ўтварэньня з працягам часу і нацыянальнае беларускае царквы. Хай-жа будзе!

**Спадарожны.**

# Чарговы рашучы крок на шляху беларусізацыі правасл. Царквы у Віленшчыне.

Беларусізацыя Царквы ў сучасны мамэнт зьяўляецца пытаньнем настолькі дасьпеўшым, што кожная правалочка ў яго рэалізацыі — можна сказаць „сьмерці падобна". Зразумела, што прыклады Табінскіх ня могуць служыць нам доказам неправільнай лініі Вышэйшай праваслаўнай духоўнай Улады, але ўказываюць, трэба прызнаць, што „на Шыпке" ня усё ў парадку. Кожны такі прыклад павінен прыпамінаць нашым Уладыкам, што аднак у нас таксама не ўсё добра, што ўрэшце агульнае нездаваленьне існуючым парадкам рэчы можа выліцца ў зусім іншыя *самастойныя формы* — нічога супольнага не маючыя з рознымі ўнійнымі комбінатарамі, *але варожыя да сучаснай іерархіі.*

Гэтага забываць не належыць і трэба старацца выказаць найбольш зразуменьня, і спагаду да дамаганьняў тых, хто, не зважаючы

на цяжкую сучасную атмосфэру, цьвёрда стаіць і пры веры праваслаўнай і пры сваёй іерархіі.

Апошняя візыта беларускай дэлегацыі ў Блажэньнейшага Мітрапаліта Дзяніса, як даведываемся, акрыліла беларусаў надзеяю, што іх чародныя невялічкія, зусім слушныя дамаганьні ўрэшце будуць хутка здзейсьнены.

Калі гэта праўда, шчыра вітаем гэты першы шаг Мітрапаліта і з свайго боку хацелі-б бачыць яго сьмелым, рашучым і поўным. Трэба, каб урэшце праваслаўныя Беларусы ў Вільні мелі свой прыход. Трэба, каб там былі сьвяшчэньнікі беларусы, незаблутаныя ў ніякія сумліўныя судовыя працэсы, сьвяшчэньнікі, якія-б карысталіся пашанай у грамадзянстве. Трэба ўрэшце аздаровіць атмасфэру і ў Віленскай Праваслаўнай Кансісторыі, уводзячы туды сябрамі сьв. беларусаў — людзей новых і незабруджаных ані ўхіленьнем ад судавай адказнасьці, ані аслаўленых сваімі „пералётамі“ з праваславія ў каталіцтва ці унію і з паваротам.

Урэшце цэлы рад спраў і пытаньняў вымагае чэснага і неадкладнага вырашэньня. Чакаем ад нашага Блажэньнейшага Мітрапаліта і свайго Архіепіскапа зрэалізаваньня таго, што ўжо даўно дасьпела.

---

З тых гутарак, якія, наш супрацоўнік меў з Архіепіскапам Хвядосам і сэкрэтаром Кансісторыі Сьлежынскім, выясьнілася, што фактычна Архіепіскап Хвядос рашуча прыхіліўся да справы беларусізацыі Царквы наагул і да дамаганьняў Віленскіх праваслаўных беларусоў у асаблівасьці, калі пераканаўся, што яны ня толькі ня маюць нічога супольнага з так званым „Царкоўным Камітэтам“, але наадварот—самі распачалі рашучую акцыю дзеля спаралiжаваньня дзеяльнасьці сілаў, варожых Праваславію наагул.

Цяпер толькі становіцца для нас зразумелай тая асьцярожнасьць, з якою падыходзіў да гэтага пытаньня наш Уладыка. Яго чыстае сэрца прадчувала і светлы розум бачыў, што для людзей ідэйных, для якіх дарагая—і свая праваслаўная вера і свой беларускі народ, прыблукаліся людзі з вельмі і вельмі нячыстымі намерамі, людзі, чакаючыя ад беларусізацыі Царквы перадусім сваіх асабістых выгадаў. Гэтым і толькі гэтым, паводле нашага глыбокага пераконаньня, была выклікана стрыманасьць Архіепіскапа Хвядоса ў справе ўтварэньня беларускага прыходу ў Мікалаеўскай царкве.

У сучасны мамэнт, паводле думкі сэкрэтара Кансісторыі гр. Сьлежынскага, ня будзе ўжо ніякіх перашкодаў ані з боку Архіепіскапа Хвядоса, ані з боку ідэйных сяброў Кансісторыі да заспакаеньня зусім слушных дамаганьняў праваслаўных беларусоў у Вільні.

# ХРОНІКА

— **Зьмены на службе ў Віленскай Епархіі.** У працягу верасьня-лістапада г. г. адбыліся наступныя зьмены па службе:

17-X. Скончыўшы Багаслоўскі аддзел Варшаўскага Унівэрсытэту сьв. Мікалай Багаткевіч зацьверджаны на становішчы настаяцеля Дунілавіцкай царквы, Мядзельскага благачыньня.

17-IX. Скончыўшы Віленскую Духоўную Сэмінар. Аўгень Люткевіч назначаны псаломшчыкам Сьніпішскай царквы ў Вільні.

21-X. Настаяцель Стара-Шаркаўскай царквы, Радзіон Радуловіч і сьвяшч. царквы м. Ільлі а. Голасаў перамешчаны адзін на мейсца другога.

12-X. Псаломшчык Кавальскай царквы Глубоцкага благачыньня, Віталі Багаткевіч назначаны псаломшчыкам Пастаўскай царквы, а ў Кавалі назначаны А. Кузьміч.

26-X. Настаяцелі Андронскай царквы а. Білев і Занароцкай а. Сеглюк пераведзены адзін на мейсца другога, абодва па ўласнаму жаданьню.

10-XI. Сьвяшч. Уладзімір Савіцкі, настаяцель Кабыльніцкай царквы і сьв. в. Холхла а. Кубенскі пераведзены адзін на мейсца другога.

У летняй сэсіі Сьв. Сінода пастаноўлена: пазбаўленага яшчэ ў лютым месяцы г. г. сьвяшчэнага сана Аўгена Ружыцкага «прэдаць публічнай анафеме» ў Іжскім храме, настаяцелем якога быў Ружыцкі да пазбаўленьня сана, каб гэтым самым палажыць канец яго шкоднай дзеяльнасьці. У той-жа Сэсіі рэорганізавана Валынская Духоўная Кансісторыя, з якой было зволнена 3 старых сябра і заместа іх прыняты новыя асобы: Прат. Каваленка, сьв. а. Выдыбеда і ігумен а. Лаврыненка.

Сьв. Сінодам было разгледжана шмат іншых бягучых спраў, па якім вынесены адпаведныя пастанаўленьня. Наступная чарговая Сэсія Сьв. Сінода мае адбыцца ў канцы лістапада г. г. На гэтай сваёй Сэсіі Сінод займецца рэорганізацыяй Віленскай Духоўнай Кансісторыі, у якой прадбачацца значныя перамены.

## Распачынаюць барацьбу...

У № 273 віленскай расейскай газ. „Наше Время“ зьмешчана зацемка аб тым, быццам прот. Н. Тучэмскі і прот. Кушнёў утварылі „Белар. Царк. Камітэт“, „дэлегаты“ якога гр. гр. Міхалевіч і Астроўскі выяжджалі ў Варшаву — „у справе беларусізацыі Мікалаяўскай Царквы і яе дамоў“...

З усей вялікай ідэйнай царкоўна-народнай справы, высьвятленьню якой ахвяравана нашая часопісь, царкоўныя (?) інфарматары газэты зразумелі толькі — „беларусізацыю дамоў“... „Царква“ у іх разуменьні, гата-ж і ёсьць першым чынам, калі ня выключна, — дамы і іншыя маёмасьці прыходаў... У гэтай зацемцы ясна і чуецца шляхотны „крык набалеўшай душы“ тых, што маюць страціць гэтыя істотныя для іх „Царквы“ рэчы... Разумеючы так „беларусізацыю“, гэтыя паны, ці „айцы“ бяспрэчна таксама „ідэйна“ разумеюць і сваю акцыю проці беларусізацыі, а пэўне-ж таксама разумелі на працягу вякоў і ўсю сваю русіфікацыйную і „царкоўную“ працу ў нашым краі...

Хай-жа добра зразумеюць яны, што якраз за гэткі пагляд на царкву і надайшла на іх гістарычная кара..

Ня маем патрэбы хаваць, што паважаны п. Рэктам Віл. Дух. Сэмінарыі прат. Н. Тучэмскі (украінец) вельмі прыхільны да беларусаў наагул і зычліва цікавіцца нашай справай.

Мы разумеем, што зацемка ў расейскай газэце распачынае ўжо барацьбу з нашай справай, дый распачынае, як бачым, вельмі характэрна.

Рэдактар - выдавец: М. Маркевіч.